 


# Ніва

ШТОТЫДНЁВІК

ГОД I № 31 БЕЛАСТОК, 30 ВЕРАСНЯ Цана 60 гр.


## НУМАР ПРЫСВЕЧАНЫ ДЭКАДЗЕ УКРАІНСКАЙ КУЛЬТУРЫ



*Днипро.*

Г. ВІГУРСКАЯ

# Украінска-беларускія культурныя сувязі

Спыняючыся на сувязях украінцаў і беларусаў як у непасрэдных дзеяннях, па абароне сваёй свабоды і незалежнасці, так і ў культурных адносінах, народны паэт Беларусі Якуб Колас у 1939 годзе ў артыкуле «Шэўчэнка і беларуская літаратура» пісаў: «Адны і другія на працягу доўгіх стагоддзяў сумесна змагаліся з сваімі прыгняталънікамі, польскімі памешчыкамі і магнатамі... Гэта пастаянная гістарычная сувязь, гэта падабенства гістарычных умоў двух народаў і іх моўная блізкасць паклалі адбітак прыязні ў іх узаемаадносінах».

Гісторыя ўкраінскага і беларускага народаў дае шмат цудоўных прыкладаў плённай узаемасувязі іх культур.

Выдатны ўкраінскі пісьменнік Іван Франко ў сваіх планах выкладання ў Львоўскім універсытэце (куды яго не дапусцілі аўстрыйскія і ўкраінскія буржуазныя нацыяналісты) адводзіў вялікае месца беларускай літаратуры і мове, дзейнасці Георгія Скарыны і іншых перадавых прадстаўнікоў беларускай культуры.

Украінская грамадскасць з удзячнасцю памятае, што адзін з лепшых помнікаў на Украіне — манумент Багдану Хмельніцкаму ў Кіеве на плошчы каля будаванага ў XI стагоддзі Сафійскага сабора — створаны сынам беларускага народа акадэмікам скульптуры Міхаілам Іосіфавічам Мікешыным.

Добра ведаюць на Украіне імя аднаго з пачынальнікаў крытычнага рэалізма ў беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча. Краязнаўчы музей у Канакопе, Сумскай вобласці, дзе пісьменнік жыў дзесяць год (1868 — 1878), збірае матэрыялы пра творчы шлях Багушэвіча, яго сувязі з украінскай культурай. У Львове вучылася і працавала пісьменніца Цётка, якая добра ведала і горача любіла творчасць украінскіх майстроў слова. У Жоўкві (цяпер горад Несцераў Львоўскай вобласці) былі надрукаваны яе кнігі «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская».

Рад украінскіх вучоных даследавалі багаты фальклор беларускага народа. Прафесар Сцяпан Саўчанка, які да апошніх дзён жыцця з'яўляўся загадчыкам кафедры Кіеўскага ўніверсітэта імя Т. Г. Шэўчэнкі, у сваёй кнізе «Рускія народныя казкі», выдадзенай у 1914 годзе, вялікую ўвагу ўдзяліў беларускаму фальклору, даўшы яму вельмі высокую ацэнку. Яшчэ раней выдатны харкаўскі вучоны Александр Патэбня таксама даследаваў беларускі фальклор.

З 1909 года ў друку з'яўляюцца перакладзеныя на ўкраінскую мову вершы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і іншых беларускіх паэтаў.

У Кіеве жыў і выступаў ва ўкраінскім друку Сяргей Палуян, які сістэматычна папулярызаваў на Украіне прагрэсіўную беларускую літаратуру. Заўчасная смерць яго ў 1910 годзе абарвала распачатую ім публікацыю шырока задуманага даследавання «Беларуская паэзія ў яе тыповых прадстаўніках». Львоўскі філолаг В. Піўтарадні нядаўна апублікаваў пра дзейнасць С. Палуяна на Украіне цікавае даследаванне.

Украінскі народ уважліва сочыць за тым, як у братняй Беларусі развіваецца эканоміка, культура. Тысячамі шляхоў звязаны працаўнікі розных галін Украінскай ССР з працаўнікамі Беларускай ССР. Разнастайныя формы культурнай сувязі двух народаў. На старонках украінскіх газет, часопісаў, кніг расказваецца пра літаратуру, мастацтва, музыку, кінематаграфію, народную творчасць Беларускай ССР.

Мільёны гледачоў бачылі беларускія кінофільмы «Савецкая Беларусь», «Канстанцін Заслонаў», «Паўлінка», «Хто смяецца апошнім», «Пяюць жаваранкі». Спектаклі па беларускіх п'есах перадаюцца на Украіне па тэлебачанню. Кінофільмы і тэлевізійныя перадачы беларускіх карцін часта суправаджаюцца лекцыямі аб братняй рэспубліцы.

Вялікая праца па азнаямленню працоўных Украіны з новымі творамі беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў праводзіцца па радыё.

Часта ва ўкраінскім друку змяшчаюцца спецыяльныя падборкі пра дасягненні беларускага народа на фронце эканамічнага і культурнага будаўніцтва. У школьных хрэстаматыях друкуюцца творы беларускіх пісьменнікаў. Змяшчаюцца такія творы і ў рэпертуарных зборніках мастацкай самадзейнасці.

Плённа развіваюцца сувязі паміж вучонымі двух рэспублік. Так, Інстытут батанікі Акадэміі навук Украінскай ССР пры дапамозе вучоных Беларусі правёў грунтова-геабатанічныя разведкі на вялікай плошчы Украінскага Палесся. Гэтыя разведкі маюць сур'ёзнае значэнне для падрыхтоўкі схемы меліярацыі Палескай нізіны.

Выхад у Мінску першага тома «Гісторыі Беларускай ССР» быў сустрэты радам станоўчых рэцэнзій на старонках украінскага друку. Часопіс «Украінская мова ў школе» надрукаваў рэцэнзію кандыдата філалагічных навук К. Цалуйкі пра кнігу прафесара Т. Ломцева «Беларуская мова», выдадзеную Маскоўскім Універсітэтам імя М. В. Ламаносава. Часопіс рэкамендуе гэтую кнігу педагогам, студэнтам украінскіх вышэйшых навучальных устаноў як каштоўны дапаможнік пры вывучэнні беларускай мовы.

Няспынна ўмацоўваюцца сувязі паміж літаратурамі Украіны і Беларусі.

Планамерна перакладаецца і выдаецца на Украіне ўсё больш празаічных, драматычных, вершаваных твораў беларускіх пісьменнікаў, а таксама беларускіх песень, казак. Напрыклад, у выдадзеным у Кіеве зборніку песень народаў СССР змешчан рад беларускіх песень, такія як «Бывайце здаровы», «Бульба», «Мікіта» і іншыя. Рад украінскіх кампазітараў напісалі музыку на творы беларускіх паэтаў. Заслужаны дзеяч мастацтва УССР, Філіп Казіцкі стварыў музыку на тэксты вершаў Янкі Купалы. Кампазітар Александр Зноска-Бароўскі напісаў дзве балады пра героя Айчыннай вайны Гастэлу для голасу з аркестрам.

Ідучы насустрач усё ўзрастаючаму попыту чытачоў на ўкраінскія пераклады беларускіх твораў выдавецтвы Украіны толькі за адзін год выпусцілі кнігі беларускіх аўтараў агульным тыражом у шэсцьсот тысяч экземпляраў.

Пад рэдакцыяй правадзейнага члена Акадэміі Навук Украінскай ССР Паўла Рыгоравіча Тычыны выйшла кніга твораў выдатнага майстра крытычнага рэалізма Францішка Багушэвіча. Над перакладамі яго твораў працавалі Паўло Тычына, Максім Рыльскі, Андрэй Малышка, Тэрэнь Масэнка, Іван Нехода, Мікола Нагнібеда, Сцяпан Алейнік, Астап Вішня, Платон Варанько і іншыя ўкраінскія паэты. Да кнігі дадзены ўступны артыкул, які разглядае асаблівасці творчасці Ф. Багушэвіча.

Крытыка станоўча сустрэла выданне твораў Ф. Багушэвіча, падкрэсліўшы, што яны дапамогуць пры вывучэнні беларускай літаратуры на філалагічных факультэтах. Максім Рыльскі, гаворачы пра творчасць Багушэвіча ў сувязі з выхадам яго кнігі, пісаў, што ён, «ідучы ў сваёй творчасці непасрэдна ад Некрасава і разам з тым надаўшы ёй глыбокі народна-нацыянальны каларыт, яўна пераклікаўся матывамі і самім характарам пісьма з Шэўчэнкам».

Украінская грамадскасць высока цэніць і творчасць Максіма Багдановіча. Яшчэ ў 1929 годзе ў Харкаве выйшаў яго паэтычны зборнік «Вянок». На юбілейным шэўчэнкаўскім пленуме ў Кіеве сямнаццаць год таму назад адзначалася высокае паэтычнае майстэрства Багдановіча і яго выдатныя крытычныя працы, у якіх зроблена сур'ёзная спроба аналізу эстэтыкі Шэўчэнкі. «Літаратурная газета» надрукавала артыкул кандыдата філалагічных навук П. Ахрыменкі (з Гомеля) пра Максіма Багдановіча як перакладчыка і даследчыка

(Працяг на стар. 4)

 

# У КІЕВЕ



*Адзін з новых будынкаў на вуліцы Хрешчацік.*



*Памятнік Богдану Хмяльніцкаму.*



*Памятнік генералу М. Ф. Ватуціну.*



*Плошча імя М. І. Калініна.*



*Дзяржаўны ордэна Леніна Акадэмічны тэатр оперы і балету імя Т. Г. Шэўчэнкі.*

ПЯТРУСЬ БРОУКА

## КІЕЎ

Кіеў вясновы,
Блакітнае ранне!..
Зноў да цябе
Я прыйшоў з хваляваннем.

Як-жа ты ўзняўся,
Садамі спавіты,
Светлай днянроўскаю
Хваляй абмыты.

Цвет каштановы
Срэбра жывое
Скрозь разгулялася
На над табою.

Усхваляваня,
Усцешана вока —
Як-жа ўзляцеў ты
Высока, высока!..

Бачыш Карпацкія
Стромыя горы
Чуеш гамонку
Сіняга мора.

Заўжды з народам
Думай адзінай,
Кіеў — сталіца,
Сэрца Украіны!

Дбайна хаваеш
Спадчыну часу —
Славу Багдана,
Песні Тараса!

Колькі бадзёрасці
У сэрцы ты маеш -
Кожнай цаглінаю
Быццам спяваеш!

Радасна быць
Тваім сынам і госцем,
Горад паланняў
І маладосці.

Заўжды ты ветлы,
Заўжды гасцінны!
Кіеў — сталіца,
Сэрца Украіны!



*Музей В. І. Леніна.*



*Андрэеўская царква — памятнік архітэктуры XVIII ст.*



*Плошча імя Сталіна.*



*На беразе Дняпра стаіць памятнік Уладзіміру.*

 

ПАНТЭЛЕЙМОН ЮР'ЕЎ

# Іван Франко ў украінскім жывапісе



*Партрэт арт.-скульптара Д. Грынца.*

Ужо сто гадоў мінула з дня нараджэння выдатнага ўкраінскага паэта Івана Франко.

На апошніх выстаўках сучаснага ўкраінскага жывапісу савецкія мастакі выступілі з карцінамі, якіх змест прысвячаецца жыццю і творчасці паэта.

Карцін гэтых з'явілася вельмі многа. Іх аўтарамі з'яўляюцца мастакі Савецкай Украіны. Частка гэтых карцін была экспаніравана ў Кіеўскім мастацкім музеі, а частка паказана ў Львове на апошняй ваяводскай выстаўцы.

Самыя лепшыя з усіх гэтых карцін будуць адабраны і змешчаны ў Музеі імя Івана Франко ў Львове. Тэматычны змест гэтых карцін надзвычай шырокі і рознастайны. На першым плане трэба неабходна паставіць шматлікія партрэты Івана Франко. Самымі лепшымі з'яўляюцца: партрэт выкананы мастаком Грынцем і партрэт выкананы мастаком Палішчуком.

Партрэт выкананы мастаком Грынцем прызнан усімі крытыкамі найбольш дасканалым і дакладным.

Вельмі цікавым быў вялікі партрэт-кілім багатай размалёўкі ручной вытворчасці, выкананы членамі гуцульскага кааператыва. Гэты партрэт-кілім таксама будзе аддадзены ў музей імя паэта. Вельмі цікавымі з'яўляюцца карціны Левіцкага, Гутарава, Грыгарчука, Хамаленюка і іншых маляроў, — выкананы пераважна алейнымі фарбамі, а радчэй акварэлю. Іх карціны прытрымліваюцца самых лепшых традыцый украінскага класічнага жывапісу. Украінскі народны жывапіс, так як і беларускі, прытрымліваўся рэалістычнага напрамку і быў тыпова народным па зместу. І эта зусім зразумела, бо як беларускі, так і ўкраінскі жывапіс ствараліся ў народным асяроддзі і ў пераважнасці выдатнымі самавукамі-мастакамі, якія выводзіліся з народа.

Тут трэба ўспомніць, што адным з самых лепшых жывапісцаў быў геніяльны ўкраінскі паэт — кабзар Тарас Шэўчэнка.

Тарас Шэўчэнка намаляваў сваім пэндзалем цэлы рад карцін і партрэтаў, у гэтым ліку цэлы рад аўтапартрэтаў. Паўсюдна ведамым з'яўляецца яго рысунак вугалём «Беларуская дзяўчына», нарысаваны ім у Пецербургу.

Мастак Гутараў — гэта аўтар некалькіх карцін прысвечаных Івану Франку. Чытачам «Нівы» цікава будзе даведацца, што гэты мастак ведамы таксама і ў Савецкай Беларусі. Яго карціна «Іван Франко» пераносіць нас у сцены старага Львоўскага ўніверсітэта, у аўдыторыю запоўненую студэнтамі і прафесарамі. Усе яны з увагай слухаюць першую лекцыю маладога вучонага, які гаворыць аб паэме Тараса Шэўчэнкі «Кацярына».

Другая карціна таго самага мастака, якой рэпрадукцыю змяшчаем, паказвае нам Івана Франко, які гаворыць прамову да працоўных Барыслаўя, — галіцыйскай нафтавай акругі. На гэтай карціне мастак паказаў сялян і работнікаў, якія з увагай і захапленнем прыслухоўваюцца яго славам аб сацыялістычнай справядлівасці і аб любві да радзімы.



*Іван Франко гаворыць прамову на мітынгу ў аколіцах Барыслаўя. (Карціна арт.-маляра І. Гутарава).*

Наведвальнікі выстаўкі асабліва цікавіліся карцінай «Іван Франко ў кузні свайго бацькі» — Л. Левіцкага.

Як вядома, Франко нарадзіўся ў сям'і беднага ўкраінскага каваля. Карціна гэта выканана манерай сучаснага пісьма, а дзякуючы выдатнаму выкананню фігуры самага Франко яна выразна выдзяляецца.

Гэты самы мастак выдаў цыкл рысункаў характарызуючых біяграфію Івана Франко. Адзін з іх, які паказвае маленькага Франко ў царкоўнай уніяцкай школе, змяшчаем. Хто не ведае гэтай карціны з мінулага? — Маленькі Франко напракудзіў, а строгі дзяк-настаўнік — замахваецца на яго розгай.



*Іван Франко ў царкоўнай школе. (Арт.-маляр Д. Левіцкі)*

Мастакі Курыла і Грыгарчук паказваюць нам Івана Франко ў працоўным асяроддзі ў ролі агітатара і прапагандыста.

У абразах гэтых мастакоў адчуваецца не толькі клапатлівую руку маляра, яна імкнецца аднавіць абставіны таго часу і эпохі. Ім зусім чужая напышлівая манументальнасць і патэтычная ўмоўнасць. На іх карцінах бачым жывога чалавека, — людзей узятых з жыцця, а не вылітых з бронзы. Да лепшых карцін належыць таксама карціна Халаменюка «Апошнія мінуты Івана Франко». Гэта карціна перапоўнеая трагічнай напружанасцю. Асабліва характэрна на ёй разгубленая фігура уніяцкага ксяндза.

Іван Франко цэлае жыццё быў атэістам і такім астаўся на смяротнай пасцелі.

Калі гаворым аб карцінах прысвечаных Івану Франко — то нельга абысці маўчаннем палатно мастака Сокалава, — «Іван Франко чытае свой пераклад аповесці Чэрнышэўскага», «Што рабіць?» на ўкраінскую мову. Гэта карціна належыць да ліку карцін, якія паказваюць на сувязь паміж Іванам Франко, а рускай культурай і рускім народам.

Недахоп месца з'яўляецца прычынай таго, што не можам больш падрабязна расказаць чытачам «Нівы» аб працах мастакоў.

Іканаграфія Івана Франко налічвае некалькі соцен пазіцый. Такой колькасці палотнаў не прысвечана ніякаму іншаму ўкраінскаму пісьменніку або паэту за выключэннем Тараса Шэўчэнкі.

Нашыя беларускія мастакі павінны пайсці ў след сваіх украінскіх братоў, і, так як яны, павінны стварыць палотны прысвечаныя жыццю і творчасці сваіх беларускіх паэтаў і дзеячоў мастацтва.

Нядаўна памёр Якуб Колас. Як добра было-б, каб ён сам і яго творчасць найшлі сваё адлюстраванне ў сучасным беларускім жывапісе.



ВАСІЛЬ БАРШЧЭЎСКІ (5)

## Мішкава жаніцьба

Мішка падпаліў вогнішча а сам выйшаў з карчоў і глянуў у кірунку вёскі.

— Усё ў парадку — з задавальненнем мармытаў ён.

У канцы вёскі ля гумна, пасаджаны на высокую тычку, тырчэў стары парваны капялюш. Гэта быў знак, што нейкага міліцыянера нідзе не відаць блізка і што Мішка можа спакойна прадаўжаць пачатую работу.

Ён так і зрабіў. Вярнуўшыся, сеў на калодачцы ля халадзільніка і пачаў чакаць на першыя кроплі першачку. Незабаўкам быццам стада індыкаў, загульгатала ў бочцы, а з трубкі халадзільніка пацяклі першыя кроплі самагонкі, у падстаўленую Мішкай лыжку. Мішка перажагнаўся і падняўшы да уснаў лыжку выпіў. Прыемная ўсмешка раз'ясніла яго напружаны дагэтуль твар. Быццам агонь праплыла самагонка праз Мішкаву гардзёлку.

— Вось калі-б сярбануў такой чвэртку, дык і з месца не ўстаў-бы — падумаў Мішка.

— Вядома, гнаць самагонку забаронена — раздумваў далей ён. За такую работу можна і ў турму папасці. Манапалёўка — вядома лепшая гарэлка, дык і піць многа прыямней яе, аднак чы-ж яе накупішся? 64 злоты літроўка — гэта не малы капітал трэба. Некалькі літроўкамі не абыдзешся на вяселлі — гэта кропля ў моры. Засмяюць людзі, вачэй ад сораму нідзе не дзенеш.

У нядзелю з самай раніцы ў мішкавай хаце рэзаў без перастанку на сваёй трохрадцы Ванька, вясковы гарманіст. Зыходзіліся госці. Усе ў новых вопратках, з узнятым, урачыстым настроям.

Сталы аж трышчалі ад усялякіх закусак, румяных пірагоў ды літровак з самагонкай.

Мішка адзеты ў сіні касцюм, адмыслова пашыты на гэтую ўрачыстасць, у снежнабелай кашулі, пад гальштукам, з шчаслівай усмешкай на вуснах, вітаў гасцей ды рассаджваў іх за сталы.

Калі ўжо ўсе расселіся, дзядзька Піліп, падкруціўшы сумястыя вусы і паправіўшы пояс на сатынавай кашулі, прагаварыў урачыстым голасам:

— Ну, дарагія госці, калі ўжо ўсе сабраліся, дык будзем пачынаць, у імя божа. Першую чаргу прапаную выпіць за здароўе нашага маладога, за Міхася! Няхай яму бог дасць многа шчасця на новай дарозе яго жыцця, няхай яму...».

Тут дзядзьку Піліпа нешта сціснула за горла, да вачэй падступіліся слёзы. Ён, прыўстаўшы, абняў Мішку і моцна цмокнуў у губы, аж лёскат пайшоў па хаце.

На гэты знак мужчыны быццам на каманду схапілі за літроўкі і самагонка забульбатаўшы паплыла ў чаркі.

Кожны з чаркай у руцэ ціснуўся да Мішкі, цокаўся, жадаў яму ўсяго добрага — піў да дна.

Ужо добра ўсім у галавах кружылася, калі дзядзька Піліп, зірнуўшы праз вакно на сонца, якое падымалася пад поўдзень, заявіў, што пара збірацца на шлюб у святую царкву.

Усе прыпяваючы пачалі падымацца з-за сталоў і выходзіць з хаты.

Ванька гарманіст, з усяе сілы націскаючы гузікі, рэзаў нейкага марша. На панадворку, неспакойна грабучы капытамі, стаялі па пары запрэжаныя, таксама падпітыя коні. Дугі, ды хамуты, дружкі ўбралі рознакаляровымі стужкамі паперы, вазы ўкляцілі зялёнай ляшчынай.

Калі ўжо іх расселіся вясельнікі, з хаты выйшла з іконай у руках мішкава маці, за ею ішоў старэнькі дзед Гаўрыла трымаючы ў адной руцэ шклянку са свянцонай вадой, у другой — тры жытнія каласкі. Яны тройчы абыйшлі першы воз у якім сядзеў Мішка, пры гэтым дзед Гаўрыла ўрачыста падняўшы галаву мачаў каласкі ў свянцоную ваду ды размашыста крапіў ёю, нешта шэпчучы сабе пад носам.

Неспакойныя коні рванулі з месца галопам, калі дзядзька Піліп па скончанай працэсіі замахнуўся на іх бізуном прывязаным да казінай ножкі.

Распырсківаючы калужы балота ды падсвістваючы пад гукі вясёлага гармоніка — яны быццам віхор пранясліся па вёсцы.

*Працяг будзе.*



 

# Гумар і сатыра



## З украінскай сатыры

У Г.С.

Мал. З. ТОЛКАЧОВА

— Бабуля, зайдзіце ў клуб расказаць нам аб нячыстай сіле... ніяк лектара не дачакаемся

## Запарожац за Бугам

Сустрэліся мы выпадкова на вакзале ў Элку. Сядзелі за адным столікам. Я еў зімнюю катлету з бараніны, а ён сала з цыбуляй. Пушыстыя вусы яго абвісалі, і калі-б ён меў на галаве «аселедзец» быў-бы вельмі падобны на запарожца з карціны Макоўскага.

Выціраючы вусы рукою, сказаў:

— Таксама сала захацелі, — і, бачачы як я мучаюся з катлетаю, дадаў: — добра біла бы штука на підметкі..

Я засмяяўся з добрага параўнання і сказаў:

— Не чакаў сустрэць украінца...

— Так, я хахол, прыязджаў праведаць нашае Украінскае культурна - асветніцкае таварыства ў Элку. Мае продкі былі сапраўднымі запарожцамі на Сечы ў Хортіцы. Потым прайшлі да запарожцаў за Дунай, а я зараз як-бы запарожац за Бугам. На Сечы беспарадак быў, п'яныя казакі пад вазамі спалі, каб іх мухі не кусалі, а ў нас гэтых беспарадкаў яшчэ больш.

— Якія-ж гэта беспарадкі вы бачыце? — пытаюся.

— Вось, сёння ў Элку выплата і ў рэстаране «Турыстычны» і ў сталовай «Ютшэнка» нават хлеба нельга дастаць. Забыліся там аб украінскай пагаворцы «Дурнэ сало бэз хліба».

— Як вы думаеце, чаму ў нас так атрымоўваецца? — запытаўся я.

— Таму што некаторыя людзі ў кааперацыі думаюць як украінскія валы ў двух напрамках — «Цобі» і «Цобэ»[1]), а астатняе іх не датычыць, — адказвае запарожац. — Я сам жыву ў Баратынцу Рускім, повят Семятычэ. Мы прадалі гравію на 150 тысяч зл. і за гэтыя грошы пабудавалі Грамадскі дом культуры. На мэблі грошай не хапіла і часова мы паставілі лаўкі з досак, а ў жыхароў сабралі 3.000 зл. на тэатральную заслону. Хацелі сарганізаваць драматычны гурток.

Давалі грошы ЗСХ, каб яны ў горадзе заслону купілі, але яны адказалі нам у гэтым.

— Ну, а людзі ў Баратынцу што гавораць пра гэта? — пытаюся.

— Людзі глядзяць і співаюць:

Баламут не війдэ з хаты,
Шо-б нас трохі покохаті...

— Маглі-б вы паскардзіцца ў ваяводскім ЗСХ на адсутнасць апекі — зазначыў я.

— Думаеце не скардзіліся? Сам быў у тав. Рузгі, але бачна яго ніхто не баіцца, па-старому наш Дом культуры бездагляднны.

— Пад няўдачамі вы апусцілі рукі? — дагадываўся я.

— А вось і не адгадалі. Запішуся я карэспандэнтам і буду пісаць ў «Нашым слове», пакуль бюракратам млосна стане, адказаў запарожац і паспяшаўся на свой поезд.

Дзядзька Лявонь

1) Крык паганятага валоў, «Цобі» — улева, «Цобэ» — управа.

Мал. К. АГНІТА

— Вілы ёсць, — ёсць... але малых размераў.



— На гэты кінофільм дзецям да 16 год білеты не прадаюць.

— Я куплю на гандаль.

— А, гэта іншая справа. Колькі хочаце?..

Цяпер не ўцячэ.

## Праект фантана „Пустаслову"

(І. ПЕРАЦ)

## ГАНДЗЯ

(народная ўкраінская песня).



Чи є в світі молодиця,
Як та Гандзя білолиця?
Ой, скажіте, добрі люди,
Шо зо мною тепер буде?
Гандзя душка, Гандзя любка,
Гандзя мила, як голубка,
Гандзя рибка, Гандзя птичка, } (2 раза)
Гандзя — цяця молодичка!

Чи я мало сходив світу,
Чи я мало бачив цвіту, —
Чом калина найкрасніша,
Чому Гандзя наймиліша?
Як на мене щиро гляне,
Серце моє, як цвіт, в'яне,
А як стане щебетати — } (2 раза)
Сам не знаю, що діяти!

Де ж ти, Гандзю, вродилася,
Де ж ти чарів навчилася,
Шо як глянеш ти очима,
То заплачу, як дитина?
Гандзю, серце-молодичко,
Яке ж твоє гарне личко,
І губоньки, і очоньки, } (2 раза)
І ніжэньки, і рученьки!

## Украінскія народныя пагаворкі і прыказкі

„Що ваші роблять?" — „Пообідали та хліб їдять"

Чесне діло робі сміло!

Хочеш їсти калачі — не сіді на печі.

Ожені його, він сам пропаде.

## АГАФОН АБРОТКА Ў ПЯТРА ЛЕЛЕКІ



Агафон стаў ля афішы.
— Аб дэкадзе братняй пішуць.
Ёсць у мяне пастанова...
І паехаў у «Нашэ слово».

— Добры дзень, Пятро Лелека! —
Агафон крычыць з далека.
Убачыўшы, Нэвірны Хома
Дападае да саломы...

Пётр Лелека не баіцца;
Сядзіць, шые нагавіцы.
Паглядзіце — ўжо знаёмы,
І пайшлі разам да Хомы.

— Агафончык, чыесь ногі!
Кінуліся з дапамогай.
— Хома! — закрычаў Лелека.
— Яка цэ тут небяспека?...

Агафон: — Баяцца годзе,
Сёння страх сюдой не ходзіць;
Не вярнуцца панскім страхам,
Украінцы — браты ляхам.



Мы жывем у краю мірным
Я, Пятро, і ты, Нэвірны.
Дык святкуйма ўсе грамадай
УСЕНАРОДНУЮ ДЭКАДУ.

Орган ГП БГ-КТ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІЯ Адрас рэдакцыі: гор Беласток, вул Кілінскага 7/1, Тэлефоны: Гал рэдактар і сакратарыят 25 89, аддзелы рэдакцыі 36 43 Умовы падпіскі: на 6 месяцаў — 15 зл 60 гр, на 3 месяцы — 7 зл 80 гр. Падпіску прымаюць паштовыя ўстановы і пісьманосцы Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 w Białymstoku.
Падпіска заграніцу выносіць: за квартал 10,15 зл., поў года 20,30 зл., за год 40,60 зл.
Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку Т-7-1866